# Голас Радзімы

№ 31 (2173)
2 жніўня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.

## ФЕСТЫВАЛЬ ПОЛЬСКАЙ ПЕСНІ «ВІЦЕБСК-90»





Ліпеньскім вечарам на адной з буйнейшых у Еўропе канцэртных пляцовак пад адкрытым небам запаліў агні другі ўсесаюзны фестываль польскай песні «Віцебск-90». Родны брат вядомай зялёнагурскай песеннай фіесты, ён сабраў зорак савецкай і польскай эстрады, навічкоў-выканаўцаў, улюбёных у польскую песню.

...Мінула пяць дзён, і фестываль назваў пераможцаў. Першае месца дасталося Наталлі Патапенка з Львова. Гарачыя сімпатыі гледачоў і прызнанне журы заваявалі прадстаўнікі нашай рэспублікі. Сярод пераможцаў Віка Наскова, якая заваявала званне лаўрэата і другое месца. Такую ж узнагароду атрымала выкладчыца музычнай школы з Пінска Алена Лукашэнка.

Адзначана на фестывалі самая маладая яго ўдзельніца студэнтка з Магілёва Вольга Залешчанка.

Фестываль стаў сімвалам брацтва двух славянскіх народаў. Дружба, відаць па ўсім, будзе паглыбляцца і мацнець. У Віцебску падпісаны дагавор аб культурным супрацоўніцтве дзвюх краін — Беларусі і Польшчы.

НА ЗДЫМКАХ: успыхнулі агні фестывалю; пераможцы А. ЛУКАШЭНКА, В. НАСКОВА і Н. ПАТАПЕНКА; на сцэне — зорка савецкай эстрады Эдзіта П'ЕХА; публіка на дабрачынным канцэрце.

Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.





НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

## ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ СУВЕРЭНІТЭЦЕ

Пасля вострых і гарачых спрэчак сесія Вярхоўнага Савета нашай рэспублікі прыняла дакумент гістарычнай важнасці — Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Адбылося гэта 27 ліпеня 1990 года. Таму дэпутаты з узрушэннем прынялі наступную пастанову: «Лічыць дзень 27 ліпеня днём абвяшчэння дзяржаўнага суверэнітэту Беларускай ССР, днём незалежнасці і штогод адзначаць яго як дзяржаўнае агульнанароднае свята Беларусі».

Дэпутаты стоячы апладысментамі віталі прыняцце Дэкларацыі.

Толькі група дэпутатаў, прадстаўнікоў БНФ на чале з З. Пазняком, па закліку свайго лідэра ў апошні дзень абмеркавання Дэкларацыі пакінула залу і не прымала ўдзелу ў галасаванні. Як заявіў сам З. Пазняк, ён лічыць Дэкларацыю пустой паперкай, таму што ў яе ўключаны адтыкул, які прадугледжвае заключэнне новага саюзнага дагавора. Паводле меркавання З. Пазняка, Савецкі Саюз зжывае сябе як унітарная дзяржава, а таму прымаць рыхтуемы саюзны дагавор «раўназначна таму, што сунуць галаву ў пятлю».

(Дэкларацыю чытайце на 3-й стар.).

ДЗЕЛАВЫЯ КАНТАКТЫ




**Прадукцыю аб'яднання «Балканкар» ведаюць на многіх прадпрыемствах СССР. Пад'ёмна-транспартнае абсталяванне з'яўляецца незаменным памочнікам для вытворчых калектываў. Электра- і аўтапагрузчыкі рознай грузападымальнасці добра зарэкамендавалі сябе. Менавіта таму вялікую цікавасць выклікалі экспанаты выстаўкі, якая адкрылася ў Мінску. Сюды прывезлі тэхніку заўтрашняга дня. Беларусь з'яўляецца для фірмы трэцім буйным партнёрам пасля Расіі і Украіны. Наладжаны цесныя кантакты са спажыўцамі, вядзецца з імі дзелавы дыялог. Цяпер аб'яднанне будзе прадаваць сваё абсталяванне за канверсаваную валюту. Ёсць і другая форма гандлю—бартэрныя здзелкі. Наладжана супрацоўніцтва з навукова-вытворчым аб'яднаннем парашковай металургіі, іншымі беларускімі прадпрыемствамі. Мяркуецца выкарыстаць беларускія рухавікі на пагрузчыках «Балканкар».**

**НА ЗДЫМКУ: беларускія спецыялісты знаёмяцца з новымі ўзорамі пад'ёмна-транспартнага абсталявання «Балканкар».**

З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

## ПАДПАЛЬВАЮЦЬ ЦЭРКВЫ

Праваслаўныя веруючыя ў Польшчы глыбока занепакоены серыяй пажараў цэркваў у Беластоцкім ваяводстве, у прыватнасці падпальваннем каштоўнага аб'екта культу—старадаўнай царквы ў Грабарцы. Пра гэта заявіў з трыбуны польскага парламента Э. Чыквін, дэпутат сейма ад хрысціянска-грамадскага саюза. Ён звярнуў увагу на напружаную атмасферу ў асяроддзі веруючых, якія апасаюцца звароту 1938 года, калі наўмысна разбураліся праваслаўныя святыні. Чыквін звярнуўся да дзяржаўных улад Польшчы з заклікам пачаць рашучыя дзеянні па ахове духоўнай спадчыны праваслаўнага насельніцтва, а таксама прапанаваў накіраваць на разгляд парламента законапраект «Аб адносінах дзяржавы да праваслаўнай царквы».

НАВУКОВЫЯ РАСПРАЦОЎКІ

## ЯК АБМЯНЯЦЬ ЦЯПЛО?

Каламбур «незаменная пры цеплаабмене» ніколькі не перабольшвае магчымасці магнітнай вадкасці, якая змяшчае найдрабнейшыя часцінкі жалеза і здольна чутка рэагаваць на ваганні магнітнага поля. Гэту яе ўласцівасць выкарысталі вучоныя Беларускага політэхнічнага інстытута, якія распрацавалі арыгінальны цеплаабменнік.

Выпрабаванні ўстройства паказалі, што інтэнсіўнасць ахаладжэння або награвання любой вадкасці яно павялічвае ў тры разы пры адначасовым зніжэнні спажывання энергіі.

У лабараторыі прыкладной цеплафізікі і цеплаэнергетыкі вучоныя прадэманстравалі мадэльную ўстаноўку. Празрысты трубапровад даваў магчымасць убачыць, як дасягаецца дзіўны эфект. Пастаянныя магніты, што абляпілі з усіх бакоў трубу, утрымлівалі ўнутры яе чорныя масляністыя лужынкі. Уключылася помпа, па каналу накіравалася вада, і бесстаронні прыборы адразу паказалі, што гідраўлічнае супраціўленне тут на 15 працэнтаў меншае, чым у кантрольным канале.

Распрацаванымі ў БПІ сістэмамі ўжо зацікавіліся спецыялісты розных галін і перш за ўсё канструктары тэхнікі, дзе асабліва цэніцца кампактнасць і малая вага ўстройстваў.

АГРАНОМІЯ

## БУЛЬБЯНЫ «СНІД»

Навіна не з прыемных: мы ядзім не тую бульбу, што вырасцілі, а тую, якую пакінуў нам... «СНІД». Менавіта так не схільныя да вобразных параўнанняў вучоныя-аграрнікі ахрысцілі хваробу нумар адзін для плантацый другога хлеба рэспублікі. Фітафтароз бульбы забірае з нашага стала да дваццаці працэнтаў ураджаю.

Пакончыць з гэтай данінай маюць намер ужо ў бліжэйшы час удзельнікі «Дня поля», які адбыўся ў калгасе «Ленінскі шлях» Слуцкага раёна. Яго правялі прадстаўнікі «СІБА-ГЕЙГІ» (буйнейшай міжнароднай фірмы па вытворчасці сродкаў аховы раслін) сумесна з беларускімі вучонымі і спецыялістамі.

Прадметам іх пільнай увагі сталі кантрольныя ўчасткі, на якіх з мая адпрацоўваліся новыя метадыкі прымянення прэпарата «арцэрыд» —своеасаблівай візітнай карткі фірмы. Вядомы ў СССР ужо больш дзесяці гадоў, ён доўгі час збаўляў нашых бульбаводаў ад трывог за лёс ураджаю. Але занадта шчодрае прымяненне прэпарата толькі дапамагло хваробе прыстасавацца да, здавалася б, безадмоўнага сродку, істотна знізіўшы яго эфектыўнасць.

Новая праграма аховы раслін у фірмы, якая мае 150-гадовую гісторыю, цесна звязана з аховай сваёй рэпутацыі. Яна зноў аказалася на вышыні пасля абмеркавання вынікаў «Дня поля», дзе вызначаны стратэгія і тактыка новага генеральнага наступлення на бульбяны «СНІД».

За ходам яго будзе сачыць і Мікалай Жукаў — прадстаўнік філіяла «СІБА-ГЕЙГІ», які адкрыўся нядаўна ў Мінску.

Восенню, ужо ў «Дзень фермера», усе планы наступлення на ворагаў беларускай бульбы будуць перададзены непасрэдным яго ўдзельнікам —аграномам.

ПА СЛЯДАХ КРАДЗЯЖУ

## СЛЕДСТВА ПРАЦЯГВАЕЦЦА...

Трывожнае паведамленне ў друку аб тым, што ў навукова-даследчым інстытуце анкалогіі і медыцынскай радыялогіі ў Мінску адбыўся крадзеж, які можа абярнуцца трагедыяй для многіх людзей, што пражываюць на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях, ускалыхнула грамадскасць. Некалькі арганізацый, у тым ліку і работнікі друку, звярнуліся ў праваахоўныя органы з прапановай выдзеліць буйную суму грошай на выкуп за ўкрадзеныя звесткі аб здароўі пацярпеўшых людзей.

Зараз у следстве ўдзельнічае вялікая колькасць спецыялістаў. Працуе ўпраўленне крымінальнага вышуку Упраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкома. Аб'ём работы велізарны. Следства вядзецца бесперапынна, адпрацоўваюцца паралельна некалькі версій.

Як вядома, праз прэсу навукоўцы, медыкі звярнуліся да грабежнікаў з просьбай не знішчаць дыскеты з каштоўнай інфармацыяй, вярнуць іх. Але пакуль у адказ поўнае маўчанне. Надзея на «высакароднасць жулікаў» не спраўдзілася. Таму па-ранейшаму галоўная задача—знайсці злачынцаў чаго б гэта ні каштавала. Задача няпростая ўжо таму, што няма сведкаў: усё адбылося ў дзве гадзіны ночы. Але знойдзена вяроўка, якой быў звязаны аглушаны вартаўнік, ёсць адбіткі пальцаў...

САЛІДАРНАСЦЬ

## У ГАСЦЯХ У КІПРЫЁТАЎ

Камісар кіпрскай асацыяцыі дзяўчынак-скаўтаў Ксенія Тафарыяду разам са сваімі калегамі па асацыяцыі сустракала групу дзяўчынак з беларускага горада Мазыра, якія апынуліся ў зоне радыяцыі пасля чарнобыльскай аварыі.

Кіпрская дзіцячая арганізацыя з задавальненнем адгукнулася на заклік ЮНЕСКА аб правядзенні міжнароднай акцыі «Салідарнасць з дзецьмі Чарнобыля». Кіраўніцтва асацыяцыі запрасіла 50 дзяўчынак, з раёнаў, што моцна пацярпелі ад радыяцыі пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

ЗДАРЭННІ

## ЗАЛАТЫ ЧЫГУНЧЫК

У Слуцку на мэблевай фабрыцы ў механічным цэху вырашылі ўстанавіць новы прэс. Каб закласці яго падмурак, пачалі капаць яму. Хутка экскаватар напоўніў трактарны прычэп зямлёй. Сталяр фабрыкі Мікалай Калядка падумаў, што для агарода такая зямля вельмі спатрэбіцца. Чалавек ён гаспадарлівы. Далей М. Калядка расказвае:

— Праз дзень з бацькам і братам пайшлі на ўчастак сястры. Я стаў разраўноўваць прывезеную кучу зямлі. Раптам рыдлёўкай вывернуў штосьці цвёрдае. Прыгледзеўся: чыгунок, зверху забіты зямлёй. Прынёс яго на двор і стукнуў раз-другі. Паказаліся жоўтыя манеты. Золата!

Хутка прыехалі работнікі міліцыі. Сышлося многа людзей. Доўга пералічвалі манеты, прамывалі пясок. Паўтаралітровы чыгунчык, знутры пакрыты эмаллю, аказаўся сапраўды залатым. У ім захоўвалася 481 манета: па 5, 10 і 15 рублёў. Больш трох кілаграмаў золата. Самай старэйшай манеце амаль паўтараста гадоў з дня чаканкі.

М. Калядка атрымае за здадзенае дзяржаве золата ўзнагароду—пэўную частку грошай.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

## ЯШЧЭ АДНА ПАРТЫЯ

Шматпартыйнасць у нас стала рэальнасцю. Вярхоўным Саветам БССР прыняты Закон, які дазваляе стварэнне любых партый пры ўмове, што яны не будуць імкнуцца да насільнага змянення савецкага канстытуцыйнага ладу, выступаць супраць цэласнасці і бяспекі рэспублікі, канстытуцыйных правоў і свабод яе грамадзян. Нядаўна абвясціла аб сваім стварэнні яшчэ адна партыя—нацыянальна-дэмакратычная. Пра яе мэты і задачы расказвае яе кіраўнік Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ.

**— Алесь Міхайлавіч, ваша партыя ўжо мае сваю канкрэтную праграму!**

— Канчатковая праграма пакуль яшчэ не выпрацавана. Вырашылі мы так: ставім вяху і, зыходзячы з таго, якую маем сілу, выконваем нейкую канкрэтную справу, можа нават невялікую па аб'ёму. Але па меры накаплення сіл мы будзем ставіць усё больш значныя задачы.

**— Аднак наперадзе ў вас ёсць жа нейкая канчатковая мэта!**

— Скажам так, не канчатковая, а першасная. Гэта—адраджэнне беларускай нацыі. На сённяшні дзень, я не баюся гэта сказаць, беларускай нацыі няма, яна размыта. Мы будзем спрыяць адраджэнню беларускага народа, адраджэнню асобы. Гэта першасная наша задача, вось чаму мы і называемся нацыянальнай партыяй.

**— Нацыянальна-дэмакратычная партыя!**

— Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі—НДПБ. Само сабой зразумела, што да адраджэння мажліва дайсці толькі дэмакратычным шляхам, дэмакратычнай перабудовай. Аднак мы добра разумеем, што без палітычнай самастойнасці і эканамічнай незалежнасці адраджэнне немагчыма.

**— І ўсё ж больш канкрэтна: якімі метадамі вы збіраецеся адраджаць нацыю!**

— У нашым статуце запісана, што НДПБ дзейнічае ў рамках Канстытуцыі БССР, дамагаецца пастаўленых мэтаў парламенцкім шляхам. Аднак далей зазначана, што пры антыгуманных, антызаконных дзеяннях супраць НДПБ партыя пакідае за сабой права пошуку іншых шляхоў дзеяння.

**— Што вы маеце на ўвазе!**

— Сесці за стол перамоў з кіруючымі ўладамі, выпрацоўваць нейкія агульныя накірункі дзейнасці, ісці на нейкія кампрамісы. Усё гэта правільна. Але я не ўпэўнены, што не будзе вяртання да таго, ад чаго мы адштурхнуліся.

**— Вы гаворыце пра рэпрэсіі!**

— А хто можа гарантваць, што іх не будзе? Калі ж пачнуцца рэпрэсіі, мы вымушаны будзем ісці ў падполле, а гэта, прабачце мне, ужо грамадзянская вайна.

**— Можа ўсё ж не варта даводзіць справу да грамадзянскай вайны!**

— Мы зробім усё, па крайней меры будзем рабіць усё, каб вайну прадухіліць. Але на сто працэнтаў сказаць, што гэта выключана, не магу. Мы, беларусы,—людзі разважлівыя, але, калі нас заганяць у кут, калі нам не будзе, дзе падзецца...

**— Аднак, каб ваяваць, патрэбна сіла, людзі патрэбны. Калі не сакрэт, колькі членаў налічвае ваша арганізацыя!**

— Партыя наша пакуль што нешматлікая, але ідэя наша вельмі магутная.

**— А як вы прапагандуеце свае ідэі!**

— Як я ўжо казаў, сіл у нас пакуль што мала. А практычна робіцца так: хлопцы нашы працуюць на заводах, ідуць у масы, тлумачаць, чаго мы хочам, распаўсюджваюць нашы праграмныя дакументы, знаёмяць з асноўнымі задачамі і накірункамі партыі. Рыхтуемся да выдавецкай дзейнасці. Увогуле мы чакаем рэгістрацыі, падалі ўсе дакументы ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР. Калі адбудзецца рэгістрацыя, спадзяёмся, нам стане прасцей працаваць.

**— Хто можа быць членам НДПБ!**

— Любы жадаючы.

**— Незалежна ад нацыянальнасці, сацыяльнай прыналежнасці і г. д.!**

— Членам нашай партыі можа быць любы грамадзянін Беларусі ці іншай дзяржавы, незалежна ад месца жыхарства, веравызнання, сацыяльнага становішча, але які валодае беларускай мовай і ўсведамляе сябе беларусам, дасягнуў 18 гадоў, прызнае праграму і статут НДПБ, працуе ў адной з яе першасных арганізацый і плаціць членскія ўзносы.

**— Прабачце, з'яўляецца ці ўсведамляе сябе беларусам!**

— Усведамляе. З'яўляецца—гэта значыць чыста нацыянальная партыя, а ў нас нацыянальна-дэмакратычная. Замыкацца ў нацыянальных рамках на сённяшні дзень проста не выпадае. Калі нацыі жывуць сярод нацый, плячо ў плячо робяць адну справу, адасобіцца—значыць абвясціць: «Беларусь—для беларусаў». Мы ж усім людзям, якія жывуць на Беларусі, пакідаем мажлівасць змагацца разам з намі за тыя мэты і задачы, што мы перад сабой паставілі, а іменна: не дапусціць знікнення беларускага этнасу, змагацца, каб не змоўкла наша мова, каб не папіхалі нас ні з Масквы, ні з Варшавы, ні з якога іншага месца, каб, урэшце, мы самі сталі гаспадарамі сваёй зямлі.

# ДЭКЛАРАЦЫЯ

## ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

# Аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

**Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,**

**выяўляючы волю народа Беларускай ССР,**

**усведамляючы адказнасць за лёс беларускай нацыі,**

**пацвярджаючы павагу годнасці і правоў людзей усіх нацыянальнасцей, якія жывуць у Беларускай ССР,**

**сведчачы павагу да суверэнных правоў усіх народаў Саюза ССР і свету,**

**лічачы рэспубліку паўнапраўным і незалежным членам сусветнага супольніцтва,**

**дзейнічаючы ў адпаведнасці з прынцыпамі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і іншымі агульнапрызнанымі міжнародна-прававымі актамі,**

**урачыста абвяшчае поўны дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх зносінах і заяўляе аб рашучасці стварыць прававую дзяржаву.**

### Артыкул 1

Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — суверэнная дзяржава, якая ўсталявана на аснове ажыццяўлення беларускай нацыяй яе неад'емнага права на самавызначэнне, дзяржаўнасці беларускай мовы, вяршэнства народа ў вызначэнні свайго лёсу.

Неад'емныя правы Беларускай ССР як суверэннай дзяржавы рэалізуюцца ў адпаведнасці з агульнапрызнанымі нормамі міжнароднага права. Беларуская ССР ахоўвае і абараняе нацыянальную дзяржаўнасць беларускага народа.

Беларуская ССР мае свой герб, сцяг і гімн.

Любыя гвалтоўныя дзеянні супраць нацыянальнай дзяржаўнасці Беларускай ССР з боку палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў ці асоб праследуюцца па закону.

### Артыкул 2

Грамадзяне Беларускай ССР усіх нацыянальнасцей складаюць беларускі народ, які з'яўляецца носьбітам суверэнітэту і адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў рэспубліцы. Яго поўнаўладдзе рэалізуецца непасрэдна і праз прадстаўнічыя органы дзяржаўнай улады.

Права выступаць ад імя ўсяго народа рэспублікі належыць выключна Вярхоўнаму Савету Беларускай ССР.

### Артыкул 3

Дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР сцвярджаецца ў імя вышэйшай мэты — свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна рэспублікі на аснове забеспячэння правоў асобы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Беларускай ССР і яе міжнароднымі абавязацельствамі.

### Артыкул 4

Грамадзянства Беларускай ССР з'яўляецца неад'емнай часткай яе суверэнітэту. Рэспубліка ахоўвае гонар, здароўе, правы і законныя інтарэсы сваіх грамадзян, забяспечвае іх сацыяльную абароненасць. Яны знаходзяцца пад яе абаронай, будучы за межамі Беларускай ССР. Рэспубліка прымае ў грамадзянства і вырашае пытанне аб выхадзе з грамадзянства.

### Артыкул 5

Зямля, яе нетры, іншыя прыродныя рэсурсы на тэрыторыі Беларускай ССР, паветраная прастора з'яўляюцца ўласнасцю беларускага народа, якому належаць выключныя правы валодання, карыстання і распараджэння імі.

Вызначэнне прававога рэжыму ўсіх відаў маёмасці адносіцца да выключнай кампетэнцыі Беларускай ССР.

Беларуская ССР мае права на сваю долю ў агульнасаюзнай маёмасці адпаведна ўкладу беларускага народа і як рэспубліка — заснавальніца Савецкага Саюза, якая была яго правадзейным суб'ектам, мае права на сваю долю ад алмазнага, валютнага фондаў і залатога запасу СССР.

Беларуская ССР утварае Нацыянальны банк, падпарадкаваны Вярхоўнаму Савету рэспублікі, стварае сваю фінансава-крэдытную сістэму, пацвярджае права ўласнасці на спецыялізаваныя банкі, якія знаходзяцца на яе тэрыторыі на момант прыняцця гэтай Дэкларацыі, арганізуе ўласныя падатковую і мытную службы, мае права на стварэнне ўласнай грашовай сістэмы.

### Артыкул 6

Тэрыторыя Беларускай ССР з'яўляецца непадзельнай і недатыкальнай і не можа быць зменена або выкарыстана без згоды Беларускай ССР.

Усе пытанні аб граніцах вырашаюцца толькі на аснове ўзаемнай згоды паміж Беларускай ССР і сумежнымі суверэннымі дзяржавамі шляхам заключэння адпаведных дагавораў, якія падлягаюць ратыфікацыі Вярхоўным Саветам Беларускай ССР.

### Артыкул 7

На тэрыторыі Беларускай ССР устанаўліваецца вяршэнства Канстытуцыі Беларускай ССР і законаў Беларускай ССР.

Усе грамадзяне і асобы без грамадзянства, дзяржаўныя органы, прадпрыемствы, установы і арганізацыі, якія знаходзяцца або дзейнічаюць на тэрыторыі Беларускай ССР, абавязаны выконваць заканадаўства Беларускай ССР.

Размежаванне заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады з'яўляецца важнейшым прынцыпам існавання Беларускай ССР як прававой дзяржавы.

Вышэйшы нагляд за дакладным і аднастайным выкананнем законаў Беларускай ССР ажыццяўляецца Генеральным пракурорам Беларускай ССР, які назначаецца Вярхоўным Саветам Беларускай ССР.

### Артыкул 8

Беларуская ССР самастойна ўстанаўлівае парадак арганізацыі на тэрыторыі рэспублікі аховы прыроды, выкарыстання прыродных рэсурсаў і забяспечвае народу рэспублікі экалагічную бяспеку.

Беларуская ССР мае права на пакрыццё страт, нанесеных ёй дзеяннямі саюзных органаў, саюзных рэспублік і іншых дзяржаў.

Беларуская ССР патрабуе ад Урада СССР безумоўнай і тэрміновай кампенсацыі страт, звязаных з пераадоленнем наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

Сваю свабоду і суверэнітэт Беларуская ССР у першую чаргу выкарыстоўвае на ратаванне народа Беларускай ССР ад вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

### Артыкул 9

Беларуская ССР самастойная ў рашэнні пытанняў культурнага і духоўнага развіцця беларускай нацыі, іншых нацыянальных супольнасцяў рэспублікі, у стварэнні ўласнай сістэмы інфармацыі, адукацыі і выхавання.

Беларуская ССР забяспечвае функцыяніраванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, захаванне нацыянальных традыцый і гістарычнай сімволікі.

Нацыянальныя, культурныя і гістарычныя каштоўнасці на тэрыторыі Беларускай ССР з'яўляюцца выключна ўласнасцю рэспублікі і яе грамадзян.

### Артыкул 10

Беларуская ССР мае права на ўласныя Узброеныя Сілы, унутраныя войскі, органы дзяржаўнай і грамадскай бяспекі, падкантрольныя Вярхоўнаму Савету Беларускай ССР.

Беларуская ССР мае суверэннае права вызначаць парадак і ўмовы праходжання яе грамадзянамі вайсковай службы, службы ў органах дзяржаўнай і грамадскай бяспекі, вырашаць пытанні размяшчэння войск і ўзбраення на сваёй тэрыторыі.

Ніякія вайсковыя фармаванні іншых краін, іх ваенныя базы і пабудовы не могуць быць размешчаны на тэрыторыі Беларускай ССР без згоды яе Вярхоўнага Савета.

Беларуская ССР ставіць мэтай зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а рэспубліку — нейтральнай дзяржавай.

### Артыкул 11

Беларуская ССР самастойна ажыццяўляе правы на добраахвотныя саюзы з іншымі дзяржавамі і свабодны выхад з гэтых саюзаў.

Беларуская ССР прапануе неадкладна прыступіць да распрацоўкі Дагавора аб саюзе суверэнных сацыялістычных дзяржаў.

### Артыкул 12

Палажэнні дадзенай Дэкларацыі рэалізуюцца Вярхоўным Саветам Беларускай ССР шляхам прыняцця новай Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР, законаў Беларускай ССР.

27 ліпеня 1990 года.
г. Мінск.

## СТАРОНКІ МІНУЛАГА

# СЛАВУТЫЯ АДВАГАЙ НА ВАЙНЕ

Як яго толькі ні абзывалі: і дзікім ліцвінам з усходніх пушчаў, і ўсходнім варварам, брудным, прапахлым аўчынай... Але, на здзіўленне фанабэрыстых магнатаў, Ягайла аказаўся добра адукаваным для свайго часу чалавекам. Бегла чытаў і пісаў, як сведчаць яго лісты і польскі гісторык С. Кучынскі, пабеларуску. Апранаўся чыста і сціпла. І наўздзіў польскай шляхце, не толькі галіўся, але і купаўся кожны дзень. У адрозненне ад кракаўскіх паноў і багатых купцоў, што спалі ў адзенні і на лавах, Ягайла клаўся спаць у ільняной бялізне на засланым прасціradлам мультановым сянніку.

Нялёгка было пераадолець і супраціўленне Ядвігі, якая пад уплывам нядобразычлівых чутак і намоваў нямецкіх ксяндзоў катэгарычна адмаўлялася стаць жонкай Ягайлы. Развіў бурную дзейнасць і Вільгельм Аўстрыйскі. Польская карона, якую ён ужо даўно лічыў сваёй, раптам выслізнула з яго рук. Пры дапамозе Уладзіслава Апольчыка ён употай прабраўся ў Вавель з цвёрдым намерам «завяршыць шлюб» актам кансумацыі і паставіць усіх перад здзейсненым фактам. Авантурыстычная па форме і рэальная па магчымасці ажыццяўлення задума, падтрыманая бліжэйшым, пранямецкім акружэннем Ядвігі і яе згодай, мела ўсе шанцы, каб нашчадак Габсбургаў сеў на польскі прастол. Пасля вясельнага застолля маладых развялі па асобных пакоях для падрыхтоўкі да шлюбнага ложа.

Яшчэ б нейкае імгненне, і падпісанае ў Крэве дзевяць дзён назад пагадненне ператварылася б у пусты гук, а гісторыя Польшчы пайшла б у зусім іншым напрамку. Але ў той апошні момант, калі Ядвізе канчалі расчэсваць валасы, у замак уварваліся паны-каронныя, апекуны каралеўны. Вільгельма выратавалі ад арышту, а магчыма, і ад смерці, пакаёўкі. Няўдачлівага жаніха і без пяці хвілін караля Польшчы яны на вяроўцы спусцілі з вежы за муры замка ў кашы з-пад бялізны. Хаваючыся ў сваіх кракаўскіх прыхільнікаў, Вільгельм праз сваіх людзей настойліва намаўляў Ядвігу да ўцёкаў. Шэпты прыдворных дам, немак, і ўпэўненыя галасы паважаных духоўнікаў-немцаў пераконвалі яе ў неабходнасці слухацца «мужа». Запалоханая пакутамі ў пекле і смяротным грахом, які яна возьме на сваю душу, калі не пойдзе за Вільгельма, Ядвіга зрабіла няўдалую спробу збегчы, але была затрымана. Неўзабаве дванаццацігадовае дзяўчо дало згоду звязаць свой лёс з Ягайлам. Адбылося гэта пасля таго, як польскія біскупы растлумачылі ёй, што адмова ад незавершанага шлюбу не з'яўляецца грахом, бо ён несапраўдны. Унушонае ёй, у тым ліку, як падае легенда, і «незямным» голасам у касцёле, усведамленне непасрэднага дачынення да хрышчэння насельніцтва Аўкштайціі і Жмудзі, апошніх у Еўропе язычнікаў, канчаткова развеяла яе сумненні. Свой шлюб з гаспадаром Вялікага княства Літоўскага яна шчыра ўспрыняла як наканаваную ёй боскую місію. Кажуць, кароткае замужжа, перарванае смерцю Ядвігі ў дваццаціпяцігадовым узросце, было шчаслівым, але, калі згадваеш пра гэта, чамусьці ўспамінаецца з лёгкім сумам адданасць традыцыям пушкінскай Таццяны: «Я другому отдана и буду век ему верна».

Адначасова з апісанымі падзеямі ў Вавельскім замку ў Крэве, што на сучаснай Гродзеншчыне, вяліся перамовы паміж дэлегацыямі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Заключанае 14 жніўня 1385 года ў Крэўскім замку, пабудаваным у былым цэнтры нальшанскага племені, з якога пайшоў род Гедымінічаў, было падпісана пагадненне, якое ўтрымала польскую дзяржаўнасць літаральна на краі бездані ў нацыянальна-гістарычнае небыццё. Згодна з Крэўскай уніяй, вялікі князь Ягайла браў у жонкі Ядвігу, атрымоўваў карону польскіх каралёў, застаючыся, аднак, і гаспадаром па-ранейшаму адасобленага з неад'емнымі правамі і рэальнымі атрыбутамі суверэннасці Вялікага княства Літоўскага і Рускага, гэта значыць беларускага, як тады называлася беларуска-літоўскае гаспадарства.

Аб'яднанне дзяржаў па ўсіх прыкметах і далейшаму развіццю падзей не выходзіла за рамкі класічнай канфедэрацыі пад двуадзіным вяршэнствам аднаго ўладара. Тагачасны статус Ягайлы, на наш погляд, добра раскрывае формула польскага даследчыка С. Кучынскага, які характарызаваў новага польскага караля як «манарха дзвюх дзяржаў».

Вакол Крэўскай уніі нагрувашчана гэтулькі розных і супярэчлівых поглядаў і версій, а то проста беспадстаўных выдумак і яўнай фальсіфікацыі, што не толькі звычайнаму чалавеку, але і гісторыку цяжка разабрацца, дзе свядомая падтасоўка фактаў, а дзе праўда. Закранём толькі адзін аспект гэтай праблемы. Даперабудовачная гістарыяграфія безапеляцыйна даводзіла, што з заключэннем Крэўскай уніі Вялікае княства Літоўскае страціла дзяржаўную самастойнасць. Дакладныя факты неабвержна сведчаць пра супрацьлеглае. Ягайла не пайшоў на уніфікацыю аб'яднаных на грунце персанальнай уніі дзяржаў. Вялікае княства па-ранейшаму засталося самастойнай са спадчыннай пераемнасцю ўлады дзяржавай, у той час як Польшча стала электыўным, гэта значыць з выбраным манархам, каралеўствам. Польскія феадалы не хацелі прызнаваць наследнікам трона сына Ягайлы. На чале аб'яднаных уніяй дзяржаў станавіліся доўгі час гаспадары Вялікага княства Літоўскага, якое мела сваё войска, свае фінансы, свае законы, свой урад, вяло самастойную знешнюю палітыку.

Але не будзем удавацца ў аналіз так званага «Акта Ягайлы і яго братоў аб саюзе Літвы з Польшчай». Гэта надзвычай цікавая, але іншая тэма, да разгляду якой неабходна абавязкова вярнуцца. Адзначым толькі, што Крэўская унія адпавядала тагачасным інтарэсам Вялікага княства Літоўскага, бо яму, акрамя крыжакоў, «даводзілася адначасова змагацца з Польшчай і Венгрыяй на захадзе, з татарамі на поўдні і Маскоўскім княствам на ўсходзе, якое набірала моц і рабілася сур'ёзным прэтэндэнтам на паасобныя пагранічныя землі».

Неабходнасць саюза з адной з суседніх дзяржаў была відавочнай. Спачатку, асабліва пасля заключэння восенню 1383 года мірнага пагаднення з Дзімітрыем Данскім і яго стрыечным братам Уладзімірам Андрэевічам, меркавалася пайсці на збліжэнне з Маскоўскім княствам. Зроблены былі нават першыя крокі да шлюбу Ягайлы з дачкою Дзімітрыя Данскога, перамовы пра які актыўна вяла матка Ягайлы, вялікая княгіня Ульяна, дачка цвярскога князя. Але ўмовы, выстаўленыя Масквой, у тым ліку і неабходнасць «лічыцца з воляй вялікага князя Дзімітрыя», ставілі пад пагрозу суверэнітэт Вялікага княства Літоўскага. Баючыся ператварыцца ў васальнага князя, хай сабе і моцнага, Ягайла спыніў далейшыя захады ў гэтым напрамку.

Пры Вітаўце, які, памірыўшыся з братам, стаў у 1392 годзе вялікім князем, становішча беларуска-літоўскай дзяржавы стабілізавалася яшчэ больш: яго межы распасцёрліся ад Балтыйскага да Чорнага мора. У леннай залежнасці ад яго знаходзіліся шэраг княстваў і ўдзелаў: Цвярское, Разанскае, Пронскае, Адаеўскае, Навасільскае, Вярхоўскія на Угры і Верхняй Аке. У склад Вялікага княства Літоўскага ўваходзілі гарады Любуцк, Тула, Берастай, Ратань, Іспаш, Дарожань, Закалоцень, Гардзееўскі, Галіч, Воронеж. Вітаўт меў значны ўплыў на Вялікі Ноўгарад і асабліва на Вялікае княства Маскоўскае, на троне якога сядзеў яго ўнук Васіль II Васільевіч.

Адной з прычын уздыму Вялікага княства Літоўскага было захаванне этнічнага побыту народаў, што ўваходзілі ў яго склад, і «існаванне нідзе больш не спатыканага феномена талерантнасці». Гэта станоўча адбілася не толькі на развіцці цывілізацыі да заходнееўрапейскага ўзроўню, а і на кансалідацыі ўнутраных сіл дзяржавы. Ацэньваючы гэты перыяд гісторыі нашай краіны, Мікола Гусоўскі ў 1523 годзе пісаў у паэме «Песня пра зубра»:

**Княжанне Вітаўта лічаць усе летапісцы**
**Росквітам княства Літоўскага, нашага краю,**
**І называюць той век залатым.**

Умацаванне дзяржавы ішло паралельна з супрацьстаяннем націску крыжакоў. Вайсковаму і дыпламатычнаму. Гісторыя няўхільна набліжалася да рашучага сутыкнення з Тэўтонскім ордэнам. Пытанне ўзнялося рубам: жыццё або смерць. І гэта, як мы пераканаемся крыху пазней, не перабольшанне. Даць адназначны адказ на пытанне: «Хто возьме верх?»,— было немагчыма, бо крыжакі абапіраліся на эканамічны і вайсковы, палітычны і маральны патэнцыял 22 краін Еўропы. І з гэтым неабходна было лічыцца. Тым не менш развязка двухсотгадовага вузла зацятай калатні набліжалася. З кожным днём усё больш выразна і моцна адчуваўся подых навальніцы. На гарызонце разгаралася полымя Вялікай вайны.

## У КАТЛЫ І Ў СУРМЫ ЎДАРЫЛІ

Князь Жадзевід не спускаў скошаных вачэй з Вітаўта. Як толькі кволы ветрык сцягнуў з поля касматыя пасмы гарматнага дыму, Вітаўт схіліў галаву і амаль нячутна прашаптаў: «Давай!». Блеснуў на сонцы меч найвысачэйшага гетмана і, са свістам рассекшы паветра, зваліўся долу. Адразу на ўсю моц грудзей залямантавалі харунжыя, выгукваючы адзін за другім каманду: «Гайда!». Загрымелі літаўры, пранізліва загаласілі сурмы. У летапісе: «Ударана ў катлы, у сурмы». Скалануліся, атрасаючы здранцвеласць, харугвы і з коп'ямі наперавес рушылі па свайму звычаю з месца наўскач на тэўтонцаў. Ад аглушальнага тупату шматтысячнай лавы задрыжала і цяжкім стогнам адазвалася зямля, ад грымотнага гулу бітвы ў абознікаў ледзянела ў жылах кроў.

У напісаным амаль што 500 гадоў назад летапісе гэты момант атакі перададзены гранічна сцісла і надзвычай вобразна: «З вялікай прудкасцю скочылі на немцаў і стачылі з імі бітву». Некалькі ёмістых па зместу і ўдала падабраных па каларыту беларускіх слоў дазволілі невядомаму аўтару ў межах строгага, амаль каналічнага летапіснага жанру нават зрокава ўзнавіць пачатковы, псіхалагічна, бадай, самы напружаны эпізод адной з найвялікшых у свеце бітваў.

Вітаўт цешыўся імклівым лётам грывастых коней з выцягнутымі ўперад шыямі і султанамі ўзнятых хвастоў. Войска Вялікага княства Літоўскага ў асноўным сядзела на мясцовых скакунах, паходжанне якіх, як мяркуюць некаторыя вучоныя, звязана з тарпанамі, дзікімі ляснымі мышастымі коньмі з чорным пасам уздоўж спіны. На Беларусі яны вадзіліся да 1808 года. Пры параўнальна невялікім росце тарпаны вызначаліся дужасцю, хуткасцю і паваротлівасцю, лёгка праходзілі цераз зарослыя хмызам і сасоннікам балоцістыя ўчасткі лесу. Якраз гэтыя якасці і былі ўласцівыя конскаму пагалоўю беларуска-літоўскага войска.

Паперадзе валынцаў і падольцаў нёсся, прыгнуўшыся да конскай грывы, Іван Жадзевід. Прыгожа разгортваўся на хаду ў ланцуг татарскі загон зухаватага хана Багардзіна.

Станіслаў ЦЯРОХІН.

Працяг. Пачатак у №№ 28, 29.

**580 гадоў адшумела над Грунвальдскім полем. Сёлета, 15 ліпеня, у дзень славутай бітвы, на ім сабралася многа народу, нашчадкі герояў, якія адстаялі незалежнасць славянскіх народаў у барацьб[illegible] крыжакамі. Ад Польшч[illegible] Літвы на ўрачыстасцях прысутнічалі прадстаўнікі афіцыйных улад. І толькі Беларусь, якая (цяпер гэта ўжо даказана) унесла рашаючы ўклад у перамогу, абмежавалася сціплай грамадскай [illegible]гацыяй. Пытанне гэта [illegible]о ўзнята і на сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Існуе і праект «грунвальдскай праграмы», прапанаваны вышэйшаму органу ўлады. Ёсць надзея, што наша памяць пра выдатны подзвіг продкаў матэрыялізуецца і нам будзе не так сорамна перад суседзямі— палякамі і літоўцамі, для якіх Грунвальд даўно стаў сімвалам, што кансалідуе народ.**







**НА ЗДЫМКАХ: 15 ліпеня 1990 года на Грунвальдскім полі.**

**ФАКТ И КОММЕНТАРИЙ**

# НУЖНО ЛИ ИСКЛЮЧАТЬ СТАЛИНА ИЗ КПСС?

Призыв исключить Сталина из партии, прозвучавший в выступлении одной из делегаток XXVIII съезда КПСС, судя по реакции зала, был встречен с пониманием и даже с одобрением. Вместе с тем никто не загорелся желанием развить эту тему, видимо, считая, что у съезда много куда более важных дел, касающихся проблем сегодняшнего дня. Да и к тому же за годы перестройки о Сталине было написано столько, что интерес к этому в обществе стал падать.

Но, может быть, все-таки точка на проблеме Сталина окончательно еще не поставлена? Может, есть смысл действительно пойти на такой акт, как исключение из рядов КПСС одного из ее бывших вождей, повинных в массовых репрессиях и других преступлениях против собственного народа и несущих историческую ответственность за создание командно-административной системы управления, которая привела страну к кризису? Возможно, это было бы воспринято как стремление партии к очищению.

Ответить на эти вопросы корреспондент АПН попросил недавнего лидера комсомола, а ныне первого заместителя заведующего Отделом ЦК КПСС по работе с общественно-политическими организациями В. Мироненко, народного депутата СССР. В аппарате ЦК такие ответственные работники, как он, по сути дела, отражают уровень завтрашнего мышления...

По мнению В. Мироненко, особой нужды в таких актах нет: «К чему трогать мертвецов? Необходимо думать об исключении сталинизма из практики работы партии».

Конечно, считает он, такие процедуры, как исключение Сталина и его соратников из рядов КПСС, как организация суда над ними, могут иметь определенное политическое значение. И все же дело не в том, чтобы раскрыть еще какие-то конкретные преступления сталинизма. В этом плане уже многое сделано. Совсем недостаточно ограничиваться и восстановлением добрых имен репрессированных. Надо разобраться в механизмах, которые привели к рождению сталинизма как явления. Но, к сожалению, это пока происходит очень медленно.

Что касается прошлого, сказал в заключение В. Мироненко, «то надо брать из него огонь, а не пепел, как советовал Жан Жорес».

**Евгений СМИРНОВ.**
(АПН).

**ПОЛИТИЧЕСКАЯ ПАРТИЯ ЧЕМПИОНА МИРА**

# С ОТКРЫТЫМ ЗАБРАЛОМ

**Может показаться, что чемпиону мира Гарри Каспарову наскучила игра в шахматы и потому он нашел для себя новое увлечение — политическую игру. Каспаров вышел из КПСС и принял самое активное участие в создании новой партии, которая пока носит название Демократическая партия России (ДПР). Чемпион мира стал в ней одним из заместителей председателя.**

**Это событие вызвало разочарование у большинства поклонников Каспарова и, по меньшей мере, недоумение у всех остальных. К тому же и сам чемпион не скрывает: политическая деятельность занимает слишком много времени и серьезно мешает его подготовке к очередному первенству мира, которое начинается в октябре в Нью-Йорке.**

**Одно только если не успокаивает, то, во всяком случае, вызывает интерес к новому занятию Каспарова — его умение просчитывать на несколько ходов вперед.** Прошлым летом он успешно выступил в роли Кассандры, предсказав к концу года падение берлинской стены. Говорят, Генри Киссинджер снисходительно улыбался, услышав этот прогноз. Не забудем и слова одного из ведущих гроссмейстеров Артура Юсупова, знающего Гарри с детских лет: «Каспаров всегда оказывается с завтрашним большинством».

Что из себя представляет программа Демократической партии России, которая к концу года, по словам ее председателя народного депутата СССР Николая Травкина, соберет миллион членов?

Первоочередная задача ДПР — возрождение российской государственности в форме суверенной демократической республики с многопартийной системой. ДПР готова решительно противопоставить примату распределения примат производства, стремлению к мировому господству — интеграцию России в систему демократических стран, институту номенклатуры — принцип личной ответственности руководителей перед законом. ДПР за то, чтобы радикально сместить распределение национального дохода в пользу потребления за счет сокращения части государственных программ, особенно военных.

Гарри Каспаров принимал самое активное участие в составлении программных документов ДПР.

**— Что заставило вас, человека, по меркам не только советским, но и западным, более чем благополучного, включиться в политическую борьбу!**

— Для меня поворотным моментом явились январские события в Баку (Каспаров говорит об армянских погромах на своей родине и о введении вслед за этим в город воинских частей). После них я понял: надо активно втягиваться в те события, которые сейчас идут в Союзе. Потому что невозможно оставаться в стране, считать себя ее гражданином, и не принимать участия в том, что в ней происходит.

Пока люди убивают друг друга, у партийной власти есть шанс удержаться. Хотя этот шанс самоубийствен. Если мы пропустим момент, когда насилие завладеет умами большинства людей, то при столь низком уровне культуры, совершенно ясно, против чего они его повернут. Все больше людей считают, что в обкомах и горкомах КПСС подлинное зло, с которым надо бороться. А бороться пока в России умеют одним способом.

Поэтому важно сделать идею антикоммунизма парламентской, не дать ей вырваться на улицу.

**— Следовательно, один из принципов ДПР — это парламентский антикоммунизм!**

— Да, и не надо шара я от этого слова — антик унизм. Основная задача ДПР — объединить широкий спектр демократических движений, чтобы помочь стране перейти от состояния хаоса к истинно парламентской республике, к государству с нормальными формами собственности, с нормальными рыночными отношениями. Мы выступаем за большие гражданские свободы как в обществе, так и внутри партии.

**— Кстати, что двигало вами, когда вы вступали в КПСС!**

— Мне было двадцать лет, и я очень хотел стать чемпионом мира. В тогдашних условиях партбилет был одним из обязательных ключей к двери, ведущей к шахматному трону. В противном случае надо было эмигрировать на Запад. О моем бегстве кое-кто мечтал, но оно никогда не входило в мои планы. Я не собираюсь оставлять свою страну людям, которые довели ее до краха.

**— Вы во всех беседах подчеркиваете свой антикоммунизм. Не боитесь ли вы потерять популярность среди соотечественников, где чуть ли не каждый десятый — член партии!**

— Я думаю, после XXVIII съезда КПСС это число сильно уменьшится в результате идейного разочарования людей. Не надо забывать и о том значительном проценте, который имеет партбилет не по идейным соображениям, а как «пропуск к карьере». Теперь партбилет перестает быть таким «пропуском».

Мне не раз говорили, что в политике трудно оставаться человеком всегда честным. Но я в ней лгать не намерен. Сегодня я потеряю популярность, но кто знает, что будет завтра?

**Виталий МЕЛИК-КАРАМОВ.**
(АПН).

**ГОСУДАРСТВО И РЕЛИГИЯ**

# КАТОЛИЧЕСКАЯ ЕПАРХИЯ В БЕЛОРУССИИ

Ватикан назначил епископа Тадеуша Кондрусевича апостольским администратором Минским и Белорусским. Хотя в титуле епископа значится Минск, его резиденция находится пока в Гродно.

Там до торжественного акта хиротонии Т. Кондрусевич служил настоятелем францисканского собора. И продолжает его опекать в настоящее время. Причина — в нехватке католических священников, которая связана, считает епископ, как это ни покажется странным, с положительными переменами в политике государства по отношению к церкви за годы перестройки. Только за последние два года в Белоруссии почти в два раза увеличилось количество католических приходов: если в 1988 году их было 100, то сегодня уже 180, и это не предел. Число же священнослужителей остается прежним: всего 62 священника, возраст двенадцати из которых уже больше 80 лет.

Вот почему епископ Т. Кондрусевич энергично взялся за организацию католичес семинарии в Белоруссии. Договорился властями Гродно о передаче церкви здания бывшего бернардинского монастыря, начал подбирать преподавателей и, конечно, слушателей семинарии.

Рабочий день епископа расписан по минутам. Прежде всего службы в своем и соседнем соборах, где пока нет настоят Ежедневные выезды в другие приходы, частые визиты в Минск для урегулирования вопроса о новой резиденции и ускорения передачи верующим Красного костела, который многие десятилетия занимает Союз кинематографистов республики.

На вопрос, что заставило правительство установить дипломатические отношения с папским престолом, его преосвященство ответил лаконично: «Сама жизнь». Под этим он понимает все большую роль, которую играет церковь, в частности католическая, в международных делах, в урегулировании региональных конфликтов, в борьбе за мир, справедливость, моральное воспитание.

А вот мнение Т. Кондрусевича по поводу пасхального послания папы римского католикам в СССР.

— Действительно, — говорит он, — и у нас, и в странах Восточной Европы начали сознавать, что человек не может существовать без Божьей милости, убедились, что не хлебом единым он жив, что нужна ему и пища духовная, без которой сердце черствеет, скудеют помыслы и исчезает благочестие. Не случайно сегодня с телеэкрана звучат воскресные проповеди, священнослужителей стали приглашать в школы, в места заключения, в больницы — туда, где человеческая душа нуждается в участии, очищении.

Сам епископ пришел к служению Богу по дороге мирских забот. В школьные годы увлекался математикой и... футболом. Любовь к точным наукам, однако, взяла верх и привела в Ленинградский политехнический институт, где он получил диплом инженера-механика.

Все эти годы вера, в которой воспитывали его родители, укреплялась в будущем епископе. И когда однажды на богослужении он услышал о приеме в духовную семинарию, будущий епископ не колебался. В 1981 году выпускник семинарии получает назначение в Вильнюс, а в 1988 году, уже в ранге доктора теологии, в родной Гродно.

**Вера ПОЛЛО.**

**Ни один справочник, ни одна энциклопедия не ответит точно на вопрос, сколько архитектурных исторических и других памятников прошлого есть сейчас на территории Белоруссии. Буквально до последнего времени из-за нашей низкой культуры, очень часто—бесхозяйственности безвозвратно исчезло это бесценное наследство, которое не поддается никакой денежной оценке. Хотя на словах все выглядело вполне прилично: на весь мир мы не переставали хвастаться, что памятники находятся под «надежной охраной государства». Особенно пострадали религиозно-культовые строения. Они использовались и под мастерские, и под склады, и даже под... конюшни. Хорошо, что сейчас положение меняется к лучшему. Памятники старины действительно берутся под охрану, находятся настоящие их хозяева. Вот и на этом снимке вы видите костел Матери Божьей в местечке Прозороки на Витебщине, который недавно отреставрирован на средства верующих. Теперь в этом здании, памятнике архитектуры начала XX века, регулярно проводится богослужение.**

**Фото А. ТОЛОЧКИ.**



МАСТАЦТВА ЭПОХІ ЛІХАЛЕЦЦЯ

# ПАКУЛЬ СВЕЦІЦЦА НАДЗЕЯ

Той, хто захацеў бы даць аптымістычную карціну стану сучаснай савецкай культуры, пры жаданні мог бы знайсці ў ёй усё: «затрыманыя» творы даўніх і нядаўніх гадоў; кнігі эмігрантаў, якія, маркуецца, павінны з часам заняць сваё месца ў літаратурным працэсе; рэлігійна-філасофскія артыкулы пачатку XX стагоддзя, карціны «забытых» мастакоў, якія выцягнулі з запаснікаў, і выстаўкі тых, хто, здавалася, назаўсёды прапаў без весткі.

Але наўрад ці гэта можа падмануць: над усім пануе адчуванне знішчальнага краху ідэалагічных устояў яшчэ нядаўна магутнай савецкай цывілізацыі і разнастайныя з'явы, якія здаюцца багаццем, на самай справе — абломкі розных культурных светаў, якія выпадкова сустракаліся ў эпоху ліхалецця.

Так, прызнаемся: перабудова — яшчэ не рэвалюцыя, пакуль гэта толькі крах. Наша мінулае ляжыць у руінах, яно ўсвядомлена як няўдалы трагічны эксперымент; наша сучаснае — нестабільнае; наша будучыня залежыць ад абарачальнасці ці неабарачальнасці сацыяльных і маральных перамен. І таму адзіна дакладнай рэальнасцю з'яўляецца сёння сітуацыя распаду бяспрыкладнай па жорсткасці таталітарнай Сістэмы. Што ж датычыць парасткаў новага, дык пакуль яны яшчэ слабыя і не даюць дакладнага ўяўлення аб тым, якой будзе будучыня, незнаёмае грамадства, дзе, магчыма, на абломках бюракратычнага самаўладдзя адновіцца жыццё.

Больш за семдзесят гадоў мы жылі ў ірэальным, вымарачным свеце. Мастацтва ўнесла свой уклад у гэтую грандыёзную містыфікацыю. Кожны з пісьменнікаў, хто ішоў ад «сацыяльнага заказу» (а такіх было большасць), прымаў за рэальнасць тыя абстракцыі, якія ўявіла ў жыццё афіцыйная ідэалогія.

Загана містыфіцыраванай інтэрпрэтацыі з'яў грамадскага жыцця была ў тым, што яна прыводзіла да псеўдаінтэрпрэтацыі, да атрафіі асабістага інтэлектуальнага намагання. І гэта ў канчатковым выніку стрымлівала інтэлектуальнае развіццё народа. Вынікі такога самаразбурэння адбіліся не толькі на тым, што мільёны людзей раптам адчулі сябе людзьмі, якія жывуць у замку, пабудаваным на пяску, але і ў тым светаўспрыманні, якое ўсё яшчэ прымушае іх блытаць месцамі прычыны і вынікі, ствараць хімеры і шукаць ворагаў там, дзе трэба было б звярнуцца да сябе (прыклад таму — сучасны рускі шавінізм). Гэта сюррэальная свядомасць з'яўляецца самым цяжкім прадуктам эпохі распаду.

— Час трагічны,— гаварыў год назад, выступаючы па тэлебачанні, ленінградскі рэжысёр Л. Додзін,— ты павінен пазнаць праўду, якую не хочаш ведаць: учора ты яшчэ думаў, што ведаеш усё, сёння ты разумееш, што гэта — толькі частка праўды. Ці хопіць нам мужнасці і сіл?

Імкненне да ўсведамлення рэальнасці надае сёння адзінства пошукам розных пісьменнікаў. Яны спрабуюць перш за ўсё разбурыць свет сюррэальных уяўленняў, у якіх жыве савецкі чалавек.

Энергія адмаўлення ў сучаснай літаратуры накіравана на ўсе ранейшыя мастацкія каноны. Сацыялістычны рэалізм прадпісваў трымацца толькі адной традыцыі — традыцыі сацыяльнага рамана 40—60-х гадоў XIX стагоддзя. У іерархіі жанраў ён лічыў вышэйшай каштоўнасцю ідэалагічны раман, сёння літаратура парадзіруе любую ідэалагізацыю зместу.

Сацыялістычны рэалізм узвёў у канон «гераічную рэчаіснасць», а «грандыёзнасць» жыццёвага матэрыялу лічыў зыходнай умовай поспеху мастацкага твора. Цяперашняе ж мастацтва маштаб жыццёвага матэрыялу лічыць за нішто, быццё перастае разглядаць як нейкі маналіт і не столькі імкнецца аперыраваць такімі абстракцыямі, як народ, колькі хоча разгледзець крупінку маналіту — чалавека. Геро[illegible] з «правільнай» класавай псі[illegible]гіяй для яго—фікцыя. І калі б сучаснаму аўтару сказалі, што ў мастацтве галоўнае — гэта стварэнне «эмоцыі непараўнальнай ідэалагічнай чысціні», ён проста не зразумеў бы, што [illegible]о хочуць, або рассмяўся б у [illegible]р.

Але зусім не азначае, што літаратура сацыялістычнага рэалізму памерла. Не. Што прыходзіць на змену сацыялістычнаму рэалізму?

— Пра што я ўвесь час пішу? — разважае драматург А. Галін.— Пра тое, як чалавек вымушаны ў ненатуральных умовах жыць. І чым бліжэй мне герой, тым цяжэйшыя думкі аб ім.

Таму А. Галіну здаецца недастатковай формула творчасці таленавітай пісьменніцы Л. Петрушэўскай, створаная крытыкай: «Яна піша, як бачыць, а бачыць, як ёсць». А. Галін дадае: Петрушэўская даводзіць «нечалавечыя ўмовы існавання чалавека да мяжы іх нечалавечнасці». У гэтай формуле — сутнасць напрамку сучаснага мастацтва.

Адзін з напрамкаў у сучаснай савецкай літаратуры атрымаў у крытыцы назву «другая проза» (хоць яе было б больш правільна назваць савецкім сюррэалізмам канца XX стагоддзя).

— Гэта проза ўчарашніх нефармалаў, літаратурны «самаадсеў»,— піша саратаўскі крытык В. Патапаў.— Фарміруючыся і самасцвярджаючыся па-за рамкамі афіцыйна прызнанага літаратурнага працэсу ва ўмовах, калі шлях сацыялізацыі быў ёй забаронены, «другая проза» павінна была выпрацаваць і выпрацавала свае агульныя рысы — рысы «наперакорнасці», апазіцыйнасці таму, што здавалася ёй афіцыёзам (а афіцыёзам для яе было ледзь не ўсё, што друкавалася).

У гады публічнасці скептычныя адносіны да рэальнасці не толькі легалізаваліся, але і паглыбіліся. Жорсткасць погляду стала ўстаноўкай бязлітаснай новай стылістыкі. Каларыт гэтай прозы — змрочны і суровы, бо яна расце не з ідэалагічнай выдумкі, а з самой рэальнасці. Адхіляючы скажоную карціну свету, «другая проза» як бы нанава маркіруе з'явы жыцця — чалавечыя адносіны. Упэўнішыся, што сучаснае быццё вымарачнае, яна малюе жорсткія законы, якія вызначаюць адносіны паміж сучаснымі людзьмі. І — адначасова — ставіць вельмі складаную этычную праблему грамадства: што ёсць норма? І ці ёсць яна наогул?

Вопыт сусветнай культуры падказвае: у эпоху крызісу пераацэнка каштоўнасцей пачынаецца з пераасэнсавання ўяўленняў аб чалавеку. Тое, што таталітарная сістэма з ім зрабіла, многімі дзеячамі культуры ўспрымаецца як неабарачальная антрапалагічная катастрофа. Але «вобраз чалавека — вышэй за чалавека», сказаў калісьці Б. Пастэрнак. Не адрываючыся ад рэальнасці, мастацтва самой памяццю аб прызначэнні чалавека здольна стаць сёння сілай, якая абвяшчае, што не ўсё яшчэ страчана, што яшчэ свеціцца надзея і што шукаць яе трэба ў нетрах чалавечага духу.

**Галіна БЕЛАЯ,**
**доктар філалагічных навук.**

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ



**У Палацы мастацтва — выстава «Помнікі Айчыны». На ёй экспануюцца творы мастакоў Беларусі і Расійскай Федэрацыі на гісторыка-культурную тэматыку. На афішы выставы пазначана, што яна прымеркавана да Дзён славянскага пісьменства і культуры. Экспазіцыя дае магчымасць пабачыць, што яднае мастакоў дзвюх рэспублік, а гэта найперш — усведамленне глыбіні крызісу ў культуры і грамадска-палітычным жыцці братніх народаў. Хоць рускім і не пагражае, як беларусам, страта роднай мовы ці раскол нацыі па прынцыпу рэлігійнаму (на «рускіх»—праваслаўных і «палякаў»—католікаў) і рэгіянальнаму (на беларусаў і «яцвягаў»)— у іх таксама праблем досыць. Тыя ж апаганеныя, зруйнаваныя святыні (часты зварот да вобраза Храма Хрыста-Збавіцеля), занепад духоўнасці. Тая ж мара аб Адраджэнні.**

**Для расійскіх мастакоў гісторыка-культ[illegible]нага напрамку ўласціва [illegible]кненне да канкрэтнага, [illegible]кладнага адлюстравання вобразаў славутых людзей Расіі, падзей нацыянальнай гісторыі, помнікаў дойлідства. У нас у такім стылі сёння плённа працуюць Я. К[illegible] М. Купава, У. Басалыга. [illegible] адносна масавым маштабе гэта было характэрным для беларускага мастацтва недзе ў сярэдзіне 70-х гадоў.**

**Мне падалося, што беларускія мастакі сёння ідуць іншым шляхам, чым іх расійскія калегі. Нам болей уласцівая метафарычнасць мыслення, наша мастацкая сістэма, хоць і мае ў аснове рэалізм, разам з тым лёгка ўспрымае і адаптуе нерэалістычныя плыні. У Расіі падобныя кантакты даюцца цяжэй.**

**Хацеў бы звярнуць увагу на адну акалічнасць, што кінулася мне ў вочы на гэтай выставе. Зрэшты, афіша, эцікетка, каталог — гэта дробязі, але... Выставу ладзяць на парытэтных асновах дзве рэспублікі. І гэты парытэт павінен прысутнічаць ва ўсім. Таму і пытаюся, чаму на афішы першымі пералічаны арганізатары выставы з боку РСФСР (Міністэрства, Саюз мастакоў і г. д.), а потым — з боку Беларусі. І ў беларускім, і ў рускім алфавіце літара «Б» называецца перш чым літара «Р». У даным выпадку мэтазгоднай была б алфавітная паслядоўнасць. Чаму афіша і этыкетка на творах толькі на рускай мове! Чаму на афішы выставы толькі Маскоўскі Крэмль — сімвал Расіі і няма ніякай выявы, якая б сімвалізавала Беларусь! Думаю, калі б Расія ладзіла агульную імпрэзу з Літвою ці Грузіяй, такія «дробязі» былі б улічаны.**

**В. БОГУШ.**

**НА ЗДЫМКАХ: В. БАРАБАНЦАЎ (г. Мінск). «Заслаўская легенда»; А. ПАТАПАЎ (г. Арол). З серыі «Помнікі Бацькаўшчыны». «Мцэнск. Царква Пятра і Паўла».**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**



## *З НОВЫХ ВЕРШАЎ*

**Сяргей КРЫШТАПОВІЧ**

### МАЛІТВА

**Наш бог!**
**Боль нашых сэрцаў**
**Малітоўным плачам званоў**
**Б'е набат на ўвесь Свет!**
**Сусвет, слухай!!!**
**Крумкачы, ад Біблейскіх часоў,**
**Прагна чакаюць Апакаліпсіса!**
**Чорнымі хмарамі кружаць яны**
**Над Белаю Руссю...**
**Вялікае гора радыеактыўным попелам**
**Лягло на твары нашых дзяцей!**
**Лёс Хірасімы, стократ памножаны,**
**Цісне на плечы,**
**Дранцвеюць рукі,**
**Стыне кроў...**
**Але ж Вера,**
**Звышчалавечая Вера**
**У моц нашай любві да нашых дзяцей,**
**Нашых матуль,**
**Нашай святой Зямлі —**
**Выратуе Сусвет!**
**Мы, людзі краіны Белых Буслоў,**
**Звяртаемся да Вас,**
**Жыхароў планеты,**
**Зліць волю кожнага сэрца ў адзіны**
**Бязмежны паток дабра!**
**Калі кожны зробіць крок да**
**Сонца — Мы пераможам!**

**Мікола ЯНЧАНКА**

### БЭРЫ

**У дзяцінстве, хлапчуком,**
**Не дасце мо веры,**
**Спрытна, цераз частакол**
**Лазіў я у бэры.**
**У каго, лепш памаўчу,**
**Спелі грушы тыя:**
**Во — амаль па гарлачу**
**Бэры залатыя.**
**Іх дзядуля вартаваў**
**Да таго старэчы,**
**Што і ўлетку загараў**
**На гарачай печы.**
**А на страх нам, хлапчукам,**
**Ён — палітык тонкі —**
**З будкі крыху вытыркаў**
**Чорныя валёнкі.**
**Ды ўбачыўшы, як дождж**
**Мыў валёнкі тыя,**
**Здагадаліся мы ўсё ж,**
**Што яны пустыя.**
**Быў адкрыты шлях прамы,**
**Хоць і рвалі ўмеру,**
**Ды спазналі ўсё-ткі мы,**
**Што такое бэры.**
**Бэры — гэта пах і смак**
**(Успомню — сэрца ные),**
**Растаюць аж на зубах**
**Грушы налітыя.**

**Калі б хто сказаў раней,**
**То не даў бы веры,**
**Што калісьці да мяне**
**Самі прыйдуць бэры*.**
**Ды чарнобыльскі удар**
**Грымнуў-рыкнуў зверам —**
**І пасыпаліся з хмар**
**І блакіту бэры.**
**Рвуцца ў шчыліны да нас,**
**Цераз форткі, дзверы,**
**І ўначы, і ў дзённы час**
**Бэры, бэры, бэры...**
**Быць бядзе!**
**Вунь лёс вядзе**
**Смерць людскому роду.**
**А народ маўчком ідзе**
**Да труны, да зводу.**

* Бэры — адзінка вымярэння радыяцыі.

# ПОСПЕХ У ЛЕНІНГРАДЗЕ

Удала выступіў Аляксандр Саладуха — саліст тэатра песні пад кіраўніцтвам Я. Паплаўскай і А. Ціхановіча ў Ленінградзе на міжнародным тэлевізійным фестывалі «Шлягер-90». Там ён быў адзначаны дыпломам і ўдзельнічаў у гала-канцэрце, які трансліраваўся на некалькі еўрапейскіх краін.

Аляксандр Саладуха спяваць пачаў у самадзейнасці, а ўпершыню гучна заявіў пра сябе на беларускай эстрадзе ў 1988 годзе... І вось тэлеконкурс у Ленінградзе.

Там сабралася 36 удзельнікаў — вядомыя салісты і калектывы, сярод якіх былі Я. Кулікоў, Ф. Кіркораў, групы «Иваныч», «Сезон дождей», «Пикник». На другім туры А. Саладуха выканаў дзве песні Алега Елісеенкава — «На улице старинной» і «Карусель». Пераможцаў конкурсу вызначалі слухачы. Дзякуючы іх прыхільнасці, беларускі спявак быў названы сярод лепшых.

Пасля конкурсу А. Саладуха атрымаў некалькі цікавых прапаноў ад арганізатараў канцэртнага жыцця, у тым ліку і ад замежных менеджэраў.

